Цана асобнага нумару 20 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 4 (151) Вільня, Серада 11 Студзеня 1928 г. Год IV.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!
Зямля сялянству бяз выкупу!

АДРЭС РЭДАКЦЫІ І АДМІНІСТРАЦЫІ: Вільня, Вострабрамская вул. № 8, кв. 1. (Wilno, ulica Ostrobramska Nr. 8, m. 1). Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадз. апрача сьвята. Рэдактар прыймае ад 12-ай да 2-ой гадзіны.

Орган Беларускага Сялянскага Саюзу. Беларуская палітычная, грамадзкая, літэратурная і гаспадарчая газэта. — ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ. —

ПАДПІСКА: На адзін месяц — 1 злоты, на тры месяцы — 2 зл., на шасьць месяцаў — 4 зл., на год — 8 зл. Для заграніцы удвая даражэй. Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.

## І яшчэ раз.

Ад таго часу, калі былі абвешчаны выбары, уцякло ўжо многа вады. Заварушыліся палітычныя групіроўкі, замаячыліся асобныя рознакаліберныя дзеячы і пашло рваць... І вось, аб тым хочацца нешта сказаць.

Ня гледзячы на тое, што паўстаюць рыбалоўцы, каб муціць масы, а з іх хапаць сабе рыбкі пры выбарах у Сойм, усе яны ня маюць абсалютна нічога рэальнага. Усе тыя шопкі, якія майструюцца на выбары, безумоўна разьвеюцца... Запраўднасьць зьмяце іх з аблічча палітычнай дзеяльнасьці. Астануцца толькі дзьве рэчы, калі можна гэтак назваць, тыя выбарныя групіроўкі, якія намячаюцца цяпер. Як здаровы і магутны арганізм Беларускае Выбарнае Аб'яднаньне, што ідзе з блёкам нацыянальных меншасьцяў і тая камбінацыя, якую вытварае цяпер „Думка Працы", вось дзе асновы, якія безумоўна маюць значэньне і будуць мець, калі пойдуць шляхам аб'яднаньня, а не разьбіваньня жывых і творчых сілаў Беларускага Народу.

Першая з гэтых групіровак — Бел. Выбарнае Аб'яднаньне ідзе толькі шляхам зьбіраньня ў адно ўсіх беларускіх дзейнікаў, а вось другая групіроўка, а іменна з „Думкі Працы" толькі дзеліцца... Яшчэ ўсё распадаецца...

Мы ўжо пісалі, што яна падзялілася на пяць паасобных кірункаў, з якіх адзін, на чале з б. паслом Сабалеўскім прыстаў да Беларускага Аб'яднаньня. Рэшта-ж яшчэ ўсё робіць камбінацыі. Чым яны кончацца—ня ведама, але-ж само-сабою разумеецца, што гэта не карысна для беларускае справы.

Нядаўна адбыўся зьезд выбаршчыкаў. Гэты зьезд выяўляў сабою волю Беларускага Народу. І вось зьезд вынес пажаданьне, каб яшчэ раз, паміма нашага „першага кроку", запрапанаваць таму адламу беларускае палітычнае групіроўкі, якая зарганізавана каля газэты „Думка Працы", прыстаць да Аб'яднаньня. Пажаданьні зьезду зьяўляюцца для нас законам. І вось, выконваючы гэты закон, мы пішам гэтыя радкі.

Робячы ўгоду з польскімі дзейнікамі, якімі фактычна кіруе ўсё той-жа Ваявудзкі, вы, паны з „Думкі Працы", наражаеце тых, хто пойдзе за вамі на новыя страшныя рэчы, бо што зьяўляе сабою ваявудчына?

Магутны ўзрост Беларускага Адраджэньня вельмі трывожыць польскія палітычныя колы, якія рахавалі на зьніштажэньне Беларусаў.

У мэтах ратаваньня польскасьці на землях Беларусі і пашырэньня польскасьці сярод беларускіх гушчаў, яны, гэтыя Ваявудзкія ідуць на розныя штукі.

Рэч ясная, што пэпэзсаўцы і вызваленцы збанкрутавалі... Ну дык вось што! Ваявудзкі, Заштаўт, Дзедзюль выступілі з новым намерам. Выставілі лявізну, каб на гэты кручок захапіць беларускага выбаршчыка, а цераз гэта ўтрымаць палітычнае жыцьцё нашага краю ў сваіх руках і кіраваць, як ім захочацца. Ці-ж патрэбна гэта Беларусам?

Вось гэта і ёсьць—ваявудчына!...

Але-ж гэта ня ўсё, бо ёсьць яшчэ адваротны бок мэдалю. Кампанія Ваявудзкага вядзе адкрытае змаганьне з беларускім нацыянальным рухам. А ў выніку гэтага мы відзім, што некаторыя, з пасярод беларускіх дзеячоў, сядзяць за вастрожнымі кратамі.

Цяпер, дык хіба ўжо даволі ясна, што толькі правакатарская і дэфэнзыўная дзейнасьць Ваявудзкага і кампаніі стварыла Грамаду, каб цераз гэта выявіць беларускія дзейныя адзінкі, ды пасьля гэтага ізаляваць, вырваць іх з масаў!...

Дык няўжо-ж пасьля таго, што сталася ў выніку дэфэнзыўна-правакатарскай працы Ваявудзкага, яшчэ трэба далей з ім сябравацца, каб ізноў сталася тое самае?

Чалавек на сваіх перажываньнях вучыцца, чалавек можа памыляцца, але-ж ня можа ён аддаваць сам сябе ў рукі сваіх ворагаў. Праўда, была памылка і з Грамадою. Ваявудзкі стварыў яе, разьбіў яе і пасадзіў у вастрог кіраўнікоў. Ну, але-ж той хто астаўся, дык павінен навучыцца!?...

Аднак-жа мы відзім, што вы, кіраўнікі „Думкі Працы" не навучыліся. Вы ізноў творыце блёк і аддаеце сябе на ласку ваявудчыны.

Вось у імя таго, каб ратаваць ад правакацыі некаторыя здаровыя беларускія адзінкі, якія прыстаюць на польска-ваявудзкія ўгоды, толькі дзякуючу якому-небудзь невразуменьню, мы яшчэ раз прапануем:

Адкіньце ўгоду з Ваявудзкім і самкнеце беларускі фронт. Запоўніце тую шчарбіну, якую вы стварылі і цераз якую праходзяць варожыя да беларускасьці сілы і задаюць удары Беларускаму Народу з усіх бакоў...

Слова за вамі!

**Скарга.**

## ВОКАМ ПА СЬВЕЦЕ.

III.

Амэрыканска-францускія перагаворы аб вечным спакоі (міры) зацікавілі ўвесь сьвет. Аднак-жа, як можна заўважыць, дык самыя перагаворы кончацца нічым, бо дагаварыцца аб гэтакай капітальнай (вякікай) справе вельмі цяжка. Чым закончацца гэтыя перагаворы, ня ведама. Але-ж і дагадвацца ня трэба, бо якія-б дагаворы не пісаліся, дык усяроўна яны астануцца толькі кавалкам паперы. Цяпер на сьвеце гэтакі існуе лад, што ня права—сіла, а наадварот, сіла—права. Гэта значыць, што чыя сіла таго і права. Аб доказах праўдзівасьці гэтага ня трэба нават і хадзіць далёка. Трэба толькі параўняць: арышты беларускай Грамады, Кодэкс Карны і маёвы пераварот.

Цяпер ізноў паўсталі гутаркі аб аднэй справе, якая зьяўляецца вечна актуальнаю, гэта — ваенная кантрыбуцыя (даніна), якую плаціць Нямеччына тым дзяржавам, якія яе перамаглі ў сьятовай вайне.

Агулам Нямеччына павінна заплаціць сваім пераможцам 132 мільярды залатых нямецкіх марак (адна марка прыблізна раўняецца двум польскім злотым). Гэта страшэнна вялікая даніна, якую Нямеччына хутка заплаціць нямога. Калі Нямеччына будзе плаціць столькі, колькі плаціць цяпер, дык гэты плацеж працягнецца аж сто гадоў. Зьява дзівосная!..

Дык і ня дзіва, што Нямеччына ўвесь час стараецца аб тым, каб як небудзь хоць часткава зьменшыць гэтую, наложаную на яе пераможцамі, вялізарную даніну. Некаторыя дзяржавы разглядаюць справу прыхільна, некаторыя хацелі-б распачаць аб гэтым гутаркі, але-ж Францыя, дык вельмі праціўіцца. І праўда, яна на гэта мае факты і правы! Справа ў тым, што Францыя павінна плаціць даўгі Англіі і Амэрыцы, тыя даўгі, якія зрабіла ў часе вайны.

Як ведама найбольшая частка ваеннага цяжару лягла на Францыю. Гэта на яе тэрыторыі і адбываліся самыя страшэнныя бойкі, гэта Францыя выставіла ўсе свае сілы на абарону сябе і другіх ад Нямеччыны. Кажу другіх, бо фактычна, хоць вайна распачалася з Францыяй, аднак-жа Нямеччына балей пагражала Англіі як Францыі. Гутарка ідзе аб сусьветнай гэгэмоніі. Францыя да вайны займала ў сусьвеце хоць не апошняе, але-ж не найгалаўнейшае месца. Англія, вось кіраўнік сусьветнае палітыкі да вайны. Захапіўшы найбольш і найлепшыя землі і стварыўшы магутны флёт, Англія запраўды панавала над усею Зямлёю. Але-ж апошнімі даваеннымі часамі вельмі шпарка ішла ў гару Нямеччына. Буйны рост сілы Нямеччыны пагражаў Англіі перамогаю. Гэтакім парадкам, Англія магла страціць панаваньне над Зямлёю. Вось чаму Англія шукала якое-небудзь магчымасьці, каб аслабіць Нямеччыну. Англіі ўдалося аб'яднаць амаль-што ўвесь сьвет і выставіць яго на барацьбу з Нямеччынай. Дык вось знача: Нямеччына пабіта і абезсіляна, але-ж яна жыве і хутка паправуляецца пасьля тых удараў, якія ёй задала вайна. А яе былыя праціўнікі, галоўна Францыя, дык ня глядзячы на тое, што атрымоўвае даніну ад Нямеччыны, ніяк ня можа вылезьці з тэй ямы, у якую яе кінула вайна.

Францыя прынясла найбольш ахвяраў Молаху вайны і як бачым, дык за чужую справу: за магутнасьць Англіі. Англія-ж пераважна давала сваім саюзьнікам на вайну грошы, якія залічвала як доўг і цяпер спаганяе з працэнтамі. І ня гледзячы на тое, што паставіла Францыю ў цяжкае палажэньне, Англія здаецца трохі згаджаецца на тое, каб параглядзець справу аб данінах належных ёй і іншым яе сябрам-саюзьнікам на сьвятовай вайне. А чаму? Ды толькі таму, што панаваньню Англіі над сьветам ідзе новая пагроза і ўжо з двух бакоў: ад Амэрыкі і СССР. (Савецкае Расеі). Амэрыка пагражае Англіі сваей фізычнай сілай, а СССР. ідэалёгіяй камунізму. А калі так, дык Англія стараецца забясьпечыцца прыяцельствам з некаторымі сваімі бліжэйшымі суседзямі, а нават на колькі магчыма імкнецца да таго, каб стварыць проці-савецкую, ды проці амэрыканскую коаліцыю (аб'яднаньне), каб гэтакімі камбінацыямі адхіліць пагрозу і далей трымацца на сваім першарадным становішчы.

З гэтых некалькі словаў ужо можна бачыць, што паміж Англіяй і Амэрыкай істнуе маленькае непаразуменьне. У чым-жа справа, ці праўдзівей сутнасьць англо-амэрыканскага непаразуменьня?

Трэба ведаць, што Амэрыка зьяўляецца цяпер самаю багатаю дзяржаваю на абшарах зямлі. І таксама трэба ведаць, што гэтае багацьце Амэрыка сабрала дзякуючы сваей шырокай прамысловасьці. Амэрыканская прамысловасьць вытварае многа тавараў, якія трэба прадаваць і то прадаваць заграніцаю...

Калі-ж прадаваць толькі на сваім унутраным рынку, дык ня будзе ходу прамысловасьці, а дзеля гэтага прамысловасьць можа панізіцца, што выкліча крызіс і эканамічны ўпадак. Дзеля гэтага, каб утрымаць сваё эканамічна-гаспадарчае палажэньне на сучасным роўні Амэрыцы патрэбна свабода марэй. Трэба, каб яна вазіла свае тавары ў кожным часе туды, куды ёй хачацца. Аднак-жа гэтая вольнасьць можа і ня быць. На гэта маем прыклад з сусьветнай вайны.

Англія, маючы магутны флёт абвясьціла блёкаду Нямеччыне. Яна не дапусьціла, каб прывозіліся ў Нямеччыну, якія колечы рэчы морам. У такім выпадку можа ўцярпець Амэрыка ці праўдзівей, яе прамысловасьць. Тагды, Амэрыка палічыла, што неабходна пабіць Нямеччыну, а цяпер, яна рахуе на тое, што трэба мець сілу, каб бараніць сябе ў кожным часе і выпадку.

Дык з гэтага вынікае, што Англія і Амэрыка на перасьпех стараюцца запанаваць над марскімі водамі. Вось дзе і прычына іх непаразуменьняў. Чым гэта кончыцца і як вырашаецца і як вырашыцца — гадаць ня буду, толькі скажу, што справа пахне кепскім. Магчыма што і тут дойдзе да крывавых разрахункаў.

Для гэтага прыточым гэтакі прыклад. Да таго часу ў вульлі сярод пчолаў лад і парадак, пакуль ёсьць адна матка. Як толькі зьявіцца другая, дык ужо дзьве пані палажэньня ня могуць пагадзіцца. Канчаецца тым, што не бяз спрэчак, адна пакідае вулей. Таксама і тут.

Пакуль-што Англія была „каралеваю над марамі", але-ж цяпер да гэтага прэстолу мае прэтэнсіі новая „каралева" — Амэрыка. Ясна, што цераз гэта і паўстаюць паміж імі, праўда, тымчасам ціхія, але-ж значныя спрэчкі.

Вось больш менш і ўсё, што заўважыла вока на палітычным небасхіле нашага сьвету. Сёньня абмінаем справу Англо-Савецкага непаразуменьня, але-ж думаем забраць у гэтай справе голас іншым разам.

Наагул можна сказаць, што на сьвеце ўвесь час ідуць перагаворы паміж паасобнымі дзяржавамі, падпісваюцца дагаворы аб згодзе і паразуменьні, але-ж з-за плеч усіх гэтых камбінацыяў выглядае абліччa Молаха—крывавага бога вайны. У палітычным жыцьці паасобных дзяржаваў істнуюць гэтакія супярэчнасьці, што няўхільна вядуць да ваенных разрахункаў. Усім добра ведама, што Нямеччына будзе шукаць способу, каб пазбавіцца ад даніны, Амэрыка будзе імкнуцца да запанаваньня над марскімі водамі, а Англія будзе старацца, каб астацца „каралеваю марэй" і г. д. Вось гэта толькі тое, што найперш папалася, але-ж гэтага даволі, каб даказаць, што непаразуменьні паміж дзяржавамі ёсьць і дабра яны не абяцаюць.

Як нам думаць аб вайне? Пытаньне на якое адказаць нельга. Толькі зазначу, што быў час і былі людзі, якія маліліся аб паўстаньні сьвятовай вайны, бо яны тагды спадзяваліся быць вольнымі!.. І праўда, яны не памыліліся, прыклад гэтага даюць хоць-бы Польшча і Чэхаславакія з пасярод шмат іншых, якія толькі дзякуючы вайне здабылі сабе самабытнасьць.

**Зыркі.**

## Спраўджайце сьпіскі выбаршчыкаў.

Ад 2-га студзеня ўва ўсіх выбарных камісіях выстаўлены сьпіскі асобаў, маючых права галасаваць пры выбарах у Сойм і Сэнат.

Абавязкам кожнага Беларуса ёсьць выявіць сваю волю пры выбарах цераз падачу голасу ў выбарную урну.

Калі хочаце, каб над Беларусамі ня было нацыянальнага ўціску,

Калі хочаце, каб ня было абшарніцкага ўціску над малазямельнымі і беднымі сялянамі-Беларусамі, каб ня было калёнізацыі беларускіх земляў асаднікамі,

Калі хочаце, каб ня было ўціску фабрыкантаў і прадпрыемцаў над работніцкім людам,

Калі хочаце беларускіх школаў, зьмяншэньня падаткаў і інш.,

Дык, грамадзяне Беларусы, павінны да 15-га студзеня ў памешканьні сваей абвадовае (раённае) выбарнае камісіі

**спраўдзіць,**

ці ўпісаны ў сьпіскі вашы прозьвішчы, прозьвішчы вашае радні, сваякоў, знаёмых, ці вашыя прозьвішчы не перакручаны ў сьпіску;

**спраўджайце,**

маючы на руках пашпарт, ці мэтрыку, або легітымацыю.

Калі заўважыце, што вас памінулі, што вашыя прозьвішчы перакручаны—зараз-жа патрабуйце, каб вас упісалі, або перапраўлі памылку.

Помніце, што сьпіскі вылажаны для перагляду толькі да 15 студзеня.

**Дык не адкладайце, не чакайце, а зараз-жа спраўджайце!**

